# НІВА

V ГОД ВЫДАННЯ № 5 (205)

31 СТУДЗЕНЬ 1960 г.

БЕЛАСТОК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Цана 60 гр. Cena 60 gr.


ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ДЫСКУСІЯ

## АБ КУЛЬТУРЫ ЎШЫРОКІМ РАЗУМЕННІ

Вельмі добра сталася, што перад III-ім з'ездам нашага таварыства наладжана сапраўды канкрэтная і шырока панятая дыскусія на тэму яго дзейнасці. Такой дыскусіі ў нас дагэтуль не было. А яна ж неабходная. Бо толькі пры шырокім удзеле зацікаўленых можна абмеркаваць і вызначыць добрую праграму дзейнасці, якая б садзейнічала развіццю кожнай галіны жыцця нашай нацыянальнай меншасці.

У сваім артыкуле, хачу выказаць свае думкі на тэму культурнай дзейнасці Таварыства сярод нашага беларускага сялянства. Увайшло ўжо ў звычай, што калі запытаеш дзеяча нашага Таварыства аб дасягненнях у галіне культурнага жыцця вёскі, дык ён абавязкова вылічыць табе колькасць гурткоў мастацкай самадзейнасці, існуючых у нашых вёсках. І гэта ўсё. Далей ён нічога не скажа.

Сапраўды, рух мастацкай самадзейнасці ў нашых вёсках усё пашыраецца. Узнікаюць усё новыя драмгурткі, вясковыя хоры, музыкальныя і танцавальныя калектывы, якія прыцягваюць да сябе ўсё больш таленавітай вясковай моладзі. Але ці нашае Таварыства поўнасцю выконвае ролю арганізатара і кіраўніка гэтым рухам? Я б сказаў, што не. Гаглядзім на рэпертуар беларускіх гурткоў мастацкай самадзейнасці. Ці змест яго адпавядае нашай рэчаіснасці? Далёка не. Большасць п'ес, якія часта ставяць вясковыя драмгурткі, здалёк пахнуць архаізмам, або яшчэ горш, бруковай шмірай, разлічанай на зусім танны смех.

Возьмем за прыклад драмгурток у Клюковічах, Сямяціцкага павета. Існуе ён тут ад 1948 года. За гэты час гурток паставіў каля 30 розных п'ес. Большасць іх гэта тыповая шміра — штосьці ў родзе «Здрадзона Крыстына», «Мундур сватэм» і г. п. Не лепш выглядзіць рэпертуар і ў другіх гуртках мастацкай самадзейнасці. Вельмі папулярныя ў нас «Боты», або «Мікітаў лапаць».

Зразумела, што такім рэпертуарам цяжка будзе ўздзейнічаць на фармаванне сапраўднага артыстычнага густу сялянства. Патля-

(Працяг на стар. 2)

## У НОВАЙ ВЕНГРЫІ



31 студзеня г. г. мінае 14 год ад абвяшчэння Венгерскай народнай рэспублікі. За гады народнай улады Венгрыя пераўтварылася ў развітую прамыслова - гаспадарчую краіну, якая хуткімі тэмпамі ліквідуе даваенную адсталасць у розных галінах эканамічнага і культурнага жыцця.

За гэты час мадэрнізаваны старыя прамысловыя прадпрыемствы і пабудавана шмат новых. Да гэткіх прадпрыемстваў залічваецца алюміневая фабрыка ў Альнасрузіто — адна з самых сучасных венгерскіх фабрык. Гэтая фабрыка славіцца таксама прыгожымі сацыяльнымі аб'ектамі. На нашым здымку вы бачыце пасёлак, у якім жывуць рабочыя гэтай фабрыкі.

## СЯМ'Я, РАССУДАК І ПАТРЭБЫ

— У мяне пяцёра дзяцей, усе сыны. Маленькія, адно другога не падыме. І зноў я цяжарная... Не маю прасветлай гадзіны. Выхоўваць мне іх цяжка. А што будзе, калі мае дзеткі дарастуць? У нас жа толькі 3 гектары зямлі. Дзяліцца не будзе чым. Муж і слухам не вядзе. Як жыць, што мне рабіць? — гаворыць лекару ў Гайнаўцы Надзя М. з вёскі К.

Праз некалькі мінут уваходзіць рослая жанчына год 30-ці. З-пад хусткі-ваўнянкі на абодва бакі лоба высунуліся ўжо пасівелыя кучаравыя косы.

— Я прыйшла параіцца, пане доктар, — гаворыць жанчына, — як можна пазбягаць цяжарнасці... Чула штосьці аб гэтым, але нічога канкрэтнага не ведаю. Сорамна мне пытаць, але... (У вачах жанчыны паказаліся слёзы). Наша гаспадарка маленькая. Нажылі ўжо з мужам шасцёра дзяцей. Муж мне не спачувае. Дзе толькі не паедзе, дык і вып'е. А тады ўжо бяда. Няма ратунку. — Ты ж жонка... — гаворыць. — Навошта я цябе прывёз у сваю хату...

— Сорамна мне было, — расказвае Іван Т. — калі прыехаў лекар і пачаў мяне ўсаромліваць, што чацвёра дзяцей і жонка яшчэ ўродзіць двайню. У карэтцы хуткай дапамогі, якая везла маю жонку ў Гайнаўку, я ледзь не згарэў з сораму. Не міла мне было і жыццё. Я ледзь не рваў на сабе валасы...

Аб чым гавораць тры прыведзеныя вышэй выказванні? Што з'яўляецца прычынай, якая ставіць у жахлівае становішча нашыя сем'і? І што трэба рабіць, каб пазбегнуць выпадковасці такіх становішчаў? Аб гэтым менавіта давайце шчыра сёння пагаворым.

Жыццё ідзе наперад і з кожным днём мяняецца яго матэрыяльнае, ідэалагічнае і маральнае аблічча. Але, не будучы песімістамі, скажам што не ўсё і не заўсёды мяняецца на лепшае. Цяжкае матэрыяльнае становішча агромнай масы сялян у нашай краіне да 1939 г. змянілася на нязноснае ў час акупацыі. У спадчыне вайны мы атрымалі вядомыя матэрыяльныя і маральныя клопаты і турботы, якія цяжка вылечыць

(Працяг на стар. 4)

# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку — № 20


## ЯГОР ХЛЯБІЧ

Ягор Хлябіч — нарадзіўся ў вёсцы Валілы, Беластоцкага павета. Зараз мае ўжо дваццаць год. У 1959 г. закончыў Настаўніцкую студыю ў Беластоку, дзе вывучаў фізіку. Цяпер з'яўляецца настаўнікам, надта любіць дзяцей і думае ў гэтым годзе ісці далей вучыцца. Сёння друкуем некалькі яго вершаў. Малюнкі Сяргея Кішыцкага.





## ЛІСІЧКА

Вось прыкінуўшыся дзедам,
Йдзе лісічка за абедам.
Нарабілі куркі піску,
Бо пазналі дзеда - ліску.

Плача ліска ды галосіць,
Хоць кусочак хлеба просіць.
Кажа, дзетак цэла хата
Пуста ў торбе, а тут свята

Адчыніце на хвілінку,
Кіньце хлеба, хоць скарынку.
Гіну, быццам мыш рудая,
Бо ніхто не спагадае.

Як пачуў яе наш цюлік:
— Ах ты злодзей, ах ты жулік,
Футра з цябе будзе, — кажа
І лісічку ў торбу вяжа.

## САБАЧКА

Ў цёткі ёсць сабачка Росцік —
Нос у сенях, ў хаце хвосцік.
Не выходзіць і на сходкі,
Кажа: – Злые куры ў цёткі.

А ваўкоў я не баюся,
Прыдзе час, як раззлуюся,
Дык усіх іх папапаю —
Жыўцом скуры паздзіраю.

А тут цётка хлюсь вадою:
— Не хваліся прада мною,
На падворак не выходзіш,
І дурноту тут наводзіш.





## КУРАЧКА

Доленька мая ты доля,
Уцякла мне курка ў поле.
Паімчала аж за мост
Растапырыўшы свой хвост.

Сяджу, плачу у гумне:
— Ой, вярніся да мяне.
Праляцела шмат мінут:
— Не плач, — Зося, — я вось тут.





## КОНЬ ПІЛІП

Гора! Конь Піліп імчыць,
З-пад капыт агонь ляціць.
Гэта ж веліч, гэта ж мах,
Уцякаймо, гускі, страх!

І пусціліся у лёт,
Каб хутчэй, хутчэй за плот.
Цяпер кажуць: — Мы гім, гім,
Не баяліся зусім.



## ПАВУЧОК

Павучок прадзе кудзелю
У суботу, у нядзелю.
Заснаваў усе аконцы,
Пачынае ткаць красёнцы.

Ой бяда цяпер для мушак,
Асцярожна лётаць мусяць,
Як каторую злапае,
Дык галоўку адрывае...

Уцякайце, мае душкі,
Бо павук паесць ўсе мушкі.
Надта мяса ваша любіць,
Маладыя мушкі губіць.



## КОЦІК

Сядзіць коцік, горка плача:
— Ой ты, долечка сабача!
За якія то гакуты
Я раздзеты і разуты.

— Ой, не плач ты коце-браце,
Не сядзеў бы ты ў хаце,
Каб не ласы на чужынку.
Не з'еў цётцы салацінку

Вось раздзелі і разулі,
Пояс ўзялі ад дзядулі
І пабілі табе спінку,
Каб не лазіў па чужынку.



## 1. ВЁСКА

Сяргей гадаваўся ў адлюддзі, на хутары Дзяткавічы. Бацькі ён не памятае — яго забілі немцы, калі Сяргей быў яшчэ дзіцём. Жыў з маці — маладой яшчэ жанчынай, і дзвюма старэйшымі сёстрамі.

— «Наш гаспадар», — называлі яго ў хаце. І малы гаспадар набіраў перакананне, што ён тут найважнейшая асоба.

Калі Сяргей падрос, так як і ўсе ў хаце, уцягнуўся ў работу. Быць гаспадаром азначае не толькі мець прывілегіі, але і абавязкі. Ён пасвіў жывёлу і памагаў у лягчэйшай працы. Па меры, як ён дужэў, пачынаў выконваць мужчынскую работу, стаючыся ў хаце сапраўдным гаспадаром.

Ён меў усяго 15 год, калі старшая сястра выйшла замуж. Незадоўга і малодшай Любе нешта закруціла — яна кінула гаспадарку, дзе работы было поўныя рукі, выехала ў Варшаву і паступіла там на работу.

— Захацелася лёгкага хлеба, — гаварыў нездаволены Сяргей на якога звалілася яшчэ больш клопатаў. А хлеб яго сястры зусім не быў лёгкі. Яна працавала служанкай, а пасля паступіла працаваць на фабрыку.

САВА

# СТАРОЕ і НОВАЕ

— Падумаеш, шчасце вялікае пакінула, — заступілася за Любу яе сяброўка.

— А што ў нас дрэнная гаспадарка, не хапае чаго? — абурыўся Сяргей.

— Што з тваёй гаспадаркі. Сядзіш, як дзік сярод пустыра. Запрогся, як вол у аглоблі, света божага не бачыш. Нават у царкве ў нядзелю аб жывёле думаеш, а сястра твая без гаспадаркі лепш ад цябе жыве. Адпрацавала восем гадзін, хлопца пад паху, дый пайшла, дзе ёй уздумаецца. А ў горадзе ёсць дзе пайсці.

— Дык чаму ж ты сама не пойдзеш за ёй, калі ў горадзе так добра.

— І пайду, думаеш, як ты, век у гнаі сядзець буду!

Гутарка не пераканала Сяргея да горада, але пакінула ў душы нейкі непрыемны асадак. У словах яе была найкая горкая праўда, з якой ён справіцца не мог.

Гаспадарка Сяргея развівалася што раз лепш. Ён гадаваў пяць кароў. Адно малако давала значны даход. Але чым больш ён меў, тым больш хацелася мець.

Ён ганарыўся, што яго — маладога хлопца, запрашаюць да сябе «добрыя» гаспадары і гутараць з ім як з роўным.

— Вось перад вайной, гэта было жыццё! — гаварыў яму такі гаспадар. — Сам пан войт, бывала, у госці заязджаў. А гэта ж была фігура ... не то што цяпер нейкі лапатнік — «пшэводнічонцы». Паглядзіць бывала на гаспадарку — пахваліць: «Вось такіх і наша дзяржава патрабуе». Грошы збярэш, зямлі прыкупіш. Каб не вайна, маёнтак ужо меў бы. А цяпер толькі грэх. Нават карэннага парабка не знойдзеш. Жук і жаба ў горад прэцца. Пачы парабіліся! Дый самому рукі ападаюць. Згоняць у калгасы, усё ветрам пойдзе.

Гэтыя словы пападалі на падатлівы грунт. Яго ж бацька таксама перад вайной зямлі прыкупіў. А цаной якіх вырачэнняў гэта адбылося, адкуль яму было ведаць. І сястра б гаспадаркі трымалася. Дый парабка можна было б наняць. А цяпер хоць ты надарвіся. Няма адкуль дапамогі. А калі хочаш мець, павінен працаваць. А што з гэтай працы выйдзе, хто ж яго ведае. Праўда, апошнім часам пра спулдзельні змоўклі, дык нейкія сельгасгурткі павыдумлялі.

Не, Сяргей не мог пагадзіцца з думкай, што ў спулдзельні жыць было б лягчэй і лепш.

## 2. ГОРАД

Восенню 1958 года Сяргею давялося наведаць сваю сястру Любу, якая пражывала ў Варшаве. Яна займала невялічкі пакой пры бяздзетнай сям'і. Праўда, цеснавата, але чыста і ўтульна. У кухні газ. За некалькі мінут можна было прыгатаваць ежу, а таксама ванну з цёплай вадой. Скромны ложак, столік,

(Працяг на стар. 4)

